# ЗГОДА

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК
http://www.zgoda-weekly.org

№ 2 (230) 19–26 студзеня 2002 г.



ПАМІЖ АРЫШТАМІ

# НЕЛЬГА ЗА СЬЦЯЖКІ...



ТАЦЬЦЯНА ПАПОВА

**У знакамітым сьпісе Лукашэнкі зьяўляюцца ўсё новыя й новыя птушачкі. Падобна на тое, што супрацоўнікам рэспубліканскае пракуратуры загадалі не абмяжоўвацца сьціплым лікам 15. Толькі за два тыдні з пачатку арыштаў кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў было заведзена больш як 210 крымінальных спраў, па якіх праходзяць больш як 720 чалавек.**

Такія зьвесткі дае начальнік галоўнага кіраваньня кантролю за зьнешнеэканамічнай дзейнасьцю камітэта дзяржкантролю Ўл. Ярашэўскі. І гэта, гледзячы па ўсім, толькі пачатак. За краты трапляюць ня толькі знакамітыя дзяржаўныя мэнэджэры, але й драбнейшыя кіраўнікі. Грамадзкасьці ж паведамляецца толькі аб нешматлікіх і сапраўды сэнсацыйных фактах, якія складаюць толькі невялікую частку ад агульнае тэндэнцыі.

Афіцыйнымі падставамі для арыштаў эканамічнага кіраўніцтва абвяшчаюцца злоўжываньне службовым становішчам, нямэтавае выкарыстаньне сродкаў, валютныя махінацыі й крымінальная нядбайнасьць. Амаль усе арыштаваныя дзяржаўныя аканомы абвінавачваюцца ў такіх справах. Праўда, прычыны затрыманьняў абвяшчаюцца не адразу. Афіцыйнае абвінавачаньне апошняму з затрыманых дырэктараў – кіраўніку МТЗ – мусяць вынесьці толькі 17 студзеня, праз дзесяць дзён ягонага існаваньня ў сьледчым ізалятары. Да гэтага часу спрытныя супрацоўнікі пракуратуры пасьпелі абшукаць кватэру, лецішча й нават гараж М. Лявонава. Верагодна, шукалі доказы хабарніцтва. Як апынулася, шматгадовая барацьба з гэтай чынавенскай заганай не дала плёну. Хаця, і гэта адметны момант, хабарніцтва нікому з ключавых мэнэджэраў не інкрымінуецца. Так банальна выкарыстоўваць службовае становішча для самага высокага вытворчага начальства – нізка.

На такіх дробных злачынствах лёгка трапляюцца дробныя кіраўнікі. Прычым памеры хабараў настолькі мізэрныя, што цяжка зразумець: ці то сапраўды дробнае кіраўніцтва настолькі зьбяднела, што ня грэбуе, як начальнік вытворчага кіраваньня «Гомельміжрайгазу» Мікалай Сушчэвіч, стодаляравым барашкам у паперцы, ці то хабарніцтва робіцца толькі фармальнай падставай для затрыманьня таго ці іншага кіраўніка. Сума ў 30 тысяч *USD*, знойдзеная ў кватэры затрыманага дырэктара Задняпроўскага рынка Анатоля Пратасені, сталася падставай для падазрэньня ў нячыстых крыніцах паходжаньня гэтых грошай. Па меркаваньні органаў пракуратуры, у Беларусі сумленны працаўнік ня можа мець такой сумы наяўных грошай.

Калі трымацца вэрсіі аб небагатых кіраўніках, лёгка прасачыць матывы дзейнасьці ўсіх мэнэджэраў, якія маюць доступ да фінансаў. Дырэктарскія заробкі не такія ўжо вялікія, каб ірваць жылы на стратэгічна важным для дзяржавы прадпрыемстве толькі з-за іх. Дзіркі й супярэчнасьці ў беларускім заканадаўстве разам з груваcткім, але недасканалым механізмам дзейнасьці камітэту дзяржкантролю дазваляюць праварочваць вельмі выкшталцоныя фінансавыя апэрацыі. Кожны кіраўнік імкнецца ўрваць хаця б невялікі ласы кавалак да таго часу, як яго схопяць за руку. Гэта зьявілася ня ўчора. Цяперашнія дырэктары дзяржаўных прадпрыемстваў – нашчадкі яшчэ савецкае бюракратычнае традыцыі, якая грунтавалася на пастулаце ўседазволенасьці найвышэйшым асобам у ерархіі. Прынамсі, да таго часу, пакуль іх не папросяць.

Нельга сказаць, што Лукашэнка ня ведаў аб дзеяньнях сваіх прызначэнцаў раней. Магчыма, дэталёвыя справаздачы зь лічбамі на вочы яму не трапляліся, аднак агульнае ўяўленьне аб тым, што за зграя дырэктарскі корпус, у яго было. Нацкаваць камітэт дзяржкантролю на дырэктараў не было раней пільнае неабходнасьці й часу. Цяпер жа вылучаюцца самыя розныя версіі наконт таго, чаму канец мінулага году стаўся фатальным для кіраўніцтва, і чаму калядныя сьвяты сталі толькі кароткімі вакацыямі для супрацоўнікаў пракуратуры і напружанымі днямі чаканьня для дырэктараў.

Хаця пакорліва чакалі грукату ў дзьверы ня ўсе. Колішні дырэктар Барысаўскага заводу аўтаматычнага электраабсталяваньня М. Бусел пасьпеў пакінуць кіраўнічы кабінет і зьехаць у Маскву. Атрымалася як з героем песьні Высоцкага аб паляваньні на ваўкоў, які кінуўся за сьцяжкі й ацалеў. Туды ж падаўся й М. Лявонаў, але цягнік не ўратаваў яго ад службоўцаў. Сьцяжкі, расстаўленая органамі дзяржкантролю, апынуліся непераадольнымі для кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў. Незалежна ад ступені сапраўднае вінаватасьці перад дзяржавай, кінуць усё і – за мяжу азначае для іх прызнаньне сваёй віны й завядзеньне крымінальнае справы. Ціхмяна чакаць свайго часу – апынуцца ў турме. Вось такая пастка. Пакуль дырэктары спрытненька замятаюць сьляды, як могуць, спадзеючыся на тое, што іх міне лёс колішніх калегаў. Паасобку кожны баіцца крочыць за сьцяжкі, пільнуючы сваю скуру.

Пакуль бацькава няміласьць не кранаецца кагосьці з дырэктараў асабіста, яны найлепшыя сябры. Паміж чынавенствам існуе складанае павуціньне неафіцыйных сувязяў. Уласна з-за прывілеяў, якія забясьпечвае пазыцыя аднаго з вузлоў гэтага павуціньня, шмат хто і трымаецца за месца ў бюракратычнай структуры. Аднак варта прэзыдэнцкай руцэ вырваць кагосьці з утульнага, дармо што дзяржаўнага, бярлогу, як гарызантальныя сувязі рвуцца, бо сапраўды зьяўлюцца такімі ж нетрывалымі, як павуціна. Між тым звычайнае для аўтарытарнага рэжыму імкненьне захаваць трываласьць сваіх пазыцыяў наверсе ерархічнае сыстэмы ёсьць найважнейшым матывам для перамяшчэньняў дырэктараў зь мяккіх крэслаў на жорсткія нары.

➲ *Заканчэньне на стар. 3*

СЕМЬ ДНЕЙ

# Будут новые аресты, гимн и паводок

ОКСАНА ХАРЛАН

**Очередная неделя нового года дополнила список жертв борьбы с коррупцией. Обвинение в злоупотреблении служебным положением предъявлено директору Гомельского радиозавода Анатолию Кирикову.**

В наступившем году Кириков – второй в списке злостных коррупционеров, но, разумеется, далеко не последний. В минувший вторник Лукашенко принимал с докладом Леонида Ерина, который, среди прочего, отчитывался и о том, как его ведомство борется с экономической преступностью.

Кстати, в скором времени президент намерен собрать расширенное совещание представителей правоохранительной и судебной систем страны, чтобы заслушать их отчеты и утвердить согласованный план действий. Так что в этом году с расхитителями президентской собственности будут расправляться уже по плану.

Ни на шаг не отступит от намеченных планов и председатель Нацбанка Петр Прокопович, и кредитно-денежная политика станет еще более жесткой. В этом он заверил Александра Лукашенко после того, как на минувшей неделе была целиком и полностью одобрена прошлогодняя деятельность главного финансового учреждения страны.

Между прочим, в отчетном году Нацбанк выдал кредитов реальному сектору экономики на общую сумму 1,8 миллиарда долларов. Причем, несмотря на все обещания больше не поддерживать убыточные хозяйства, сельхозпроизводителям отвалили в 2 раза больше денег, чем в 2000 году.

Надо полагать, такая же тенденция сохранится и в этом году, значит, всех нас ждет новый рост цен, а белорусский рубль – инфляция. Подтверждением чему стало официальное сообщение Национального банка о введении в обращение с 21 января банкноты достоинством 20 000 рублей.

Еще одним событием ушедшей недели, которое имеет все шансы стать в некотором роде знаковым для Беларуси, стало создание государственной комиссии по подготовке нового гимна страны. Теперь до 1 апреля все желающие могут присылать в госкомиссию свои варианты музыки и слов гимна, после чего пять лучших будут записаны в исполнении духового оркестра. Из них граждане должны будут выбрать наиболее понравившиеся, после чего комиссия назовет трех победителей.

Короче говоря, 3 июля у Беларуси кровь из носу должен быть новый гимн. Хочется надеяться, что с гимном страны не получится так же, как с гимном Минска, когда из десятка приличных мелодий, была выбрана старая совковая песня.

Не обошел вниманием Александр Григорьевич и проблемы науки. На встрече с Михаилом Мясниковичем он подробно обсудил перспективы глобального реформирования управления наукой. Вероятно, Михаил Владимирович скоро станет руководить не только Национольной академией, но и подомнет под себя все вузы. Что из этого получится, не трудно догадаться. Такого в истории суверенной Беларуси еще не было.

Кстати об истории, Владимир Янковский отказался от съемок грандиозного проекта «Беларусьфильма» – исторической картины «Анастасия Слуцкая». Все дело в том, что режиссер и сценарист фильма Янковский не представляет, как можно такой масштабный сюжет уложить в полуторачасовую ленту и бюджет всего в 1,5 миллиона долларов, именно столько выделено на съемки.

Последней «радостной» новостью прошлой недели стало сообщение о вероятности весеннего паводка. В первую очередь затопленными могут стать Житковичский, Мозырский и Столинский районы Беларуси. Правда в МЧС уверяют, что к стихийному бедствию их ведомство готово. А в бюджете страны на этот случай припасен 1 миллиард рублей. ■

## АНЕКДОТ-С

Старый депутат делится со школьниками воспоминаниями о Лукашенко:

– Дело было во время сессии Верховного Совета БССР 12-го созыва. Захожу я в туалет, глядь, а наш Александр Григорьевич малую нужду в уголке справляет. А глаза у него такие добрые и радостные...

* * *

Министр внутренних дел звонит президенту:

– Когда будем брать директора тракторного, до или после обеда?

– Обязательно до обеда, а обеды отдадим рабочим.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ



*«Мы стараемся идти в дань моды»*

**(Ю. Прядко, и. о. гендиректора ПО «Горизонт», «Панорама», 15.01.02)**



*«Страна почувствовала вкус к выборам»*

**(Л. Ермошина, «Звязда», 15.01.02)**



*«Интересна, кстати, структура носителей бледной спирохеты с точки зрения социального положения заболевших»*

**(В. Орехов, «Минский курьер», 16.01.02)**

## НАВІНЫ

**Дэлегацыя.** Кіраўніцтва Савета Рэспублікі запрошана ўзяць удзел у 7-й Берлінскай сустрэчы, якая мае прайсці 13–15 студзеня. Запрашэнне даслана сябрамі дэлегацыі нямецкага Аб'яднання спрыяння паразуменню між народамі на чале з сябрам камісіі па замежных справах бундэстага Ёхімам Тапэ. У час гутаркі ў Савеце Рэспублікі сп. Тапэ спецыяльна падкрэсліў, што сябры дэлегацыі не маюць афіцыйнага мандата бундэстага. У той жа час, прыезд нямецкай дэлегацыі ў Мінск сведчыць, што нямецкія парламентары надаюць вялікую ўвагу падтрыманню кантактаў з беларускімі калегамі. Асноўная частка візіту сп. Тапэ ў Мінск прысвечана нефармальным сустрэчам, у тым ліку наладжванню кантактаў з рэлігійнымі арганізацыямі розных плыняў.

**Псіхіятрыя.** Згодна з пастановай следства, над рэжысёрам «Беларусьфільма» Русланам Зголічам была праведзена псіхіятрычная экспертыза. У выснове экспертаў гаворыцца пра *«часовае расстройства душэўнай дзейнасці»*, на падставе чаго дадзена ўказанне аб прымусовым лячэнні ў псіхіятрычнай лякарні са звычайным назіраннем. Руслан Зголіч і ягоная абарона лічаць высновы лекараў памылковымі і перадузятымі – яны будуць патрабаваць правядзення паўторнай экспертызы. Канфлікт рэжысёра з адміністрацыяй кінастудыі ўзнік з-за адсутнасці дазволу на працяг здымкаў стужкі «Госці», на чым настойваў Зголіч.

**Гадавіна.** Споўніўся год руху «Зубр». 14 студзеня 2001 года 40 маладых хлопцаў у Белавежскай пушчы стварылі новы рух людзей, якія не жадалі трываць дзеянні цяперашняй улады, жадалі жыць у вольнай і свабоднай Беларусі. Рух быў прэзентаваны 13 лютага ў Мінску каля помніка Марату Казею. За год працы «Зубр» правёў мноства пікетаў, на якіх узгадваў зніклых беларускіх палітыкаў, на што ўлада адказвала рэпрэсіямі. Адной з гучных акцыяў, праведзеных летась рухам па ўсёй Беларусі, быў жорстка сатырычны «Канчатковы дыягназ».

**Белавежа.** Не працягваць дзеянне дыплому Рады Еўропы, выдадзенага Нацыянальнаму парку «Белавежская пушча», запатрабавала грамадскасць Беларусі. Працяг дзеяння дыплома стане ўхвалаю *«заганнай практыкі прыродакарыстання замест аховы Белавежскай пушчы»*, – гаворыцца ў звароце, які падпісалі прадстаўнікі «Асацыяцыі беларускіх зялёных», Беларускага таварыства аховы прыроды, Беларускага геаграфічнага таварыства, шэрагу праваабарончых арганізацыяў. У лісце падкрэслена, што *«стан аб'екту прыкметна пагоршыўся, умовы і рэкамендацыі дыплома не выконваліся ў поўным аб'ёме»*, а прадстаўнікам грамадскасці забаранілі акцыю «Прэс-тур у падтрымку Орхускай канвенцыі», у межах якой планавалася наведаць пушчу і атрымаць неабходную інфармацыю.

**КНГ АБСЕ.** Калі мандат Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ у Беларусі не будзе зменены, далейшая прысутнасць групы ў Мінску зробіцца немагчымай – заявіў міністр замежных справаў Беларусі Міхаіл Хвастоў. Паводле Хвастова, *«той мандат, які прадпісвае групе працаваць у Беларусі, групай не выконваўся ні ў 2000-м, ні ў 2001-м гадах»*. Спадар Хвастоў заявіў: пытанне аб мандаце КНГ было пастаўлена ў сакратарыяце АБСЕ, і яно найбліжэйшым часам будзе абмяркоўвацца. *«Палітычныя і эканамічныя ўмовы ў нашай краіне значна лепшыя, чым гэткія ўмовы ў шэрагу краін СНД, а беларускае пытанне палітызуецца, і яно павінна быць знята»*, – мяркуе Хвастоў. Тым часам у Жэневе на паседжанні Камітэта Міжпарламенцкага саюза па абароне правоў парламентарыяў і чалавека зноў будуць разглядацца справы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканя.

**Войска.** Міністэрства абароны не выключае ўдзелу беларускіх Узброеных Сіл у міжнародных міратворчых аперацыях. У бліжэйшых планах Міністэрства: вывучэнне беларускімі вайскоўцамі досведу ўдзелу міратворчых сілаў Украіны ў міжнародных аперацыях пад эгідай ААН. *«Цяперашнім часам нашае заканадаўства не прадугледжвае ўдзелу беларускіх вайсковых кантынгентаў у падобных аперацыях. Заўтра сітуацыя можа змяніцца, і мы павінны быць да гэтага падрыхтаваныя»*, – заявіў намеснік начальніка Генеральнага штаба Узброеных Сіл Беларусі палкоўнік Станіслаў Смольскі. Разам з тым, палкоўнік Смольскі не пацвердзіў распаўсюджанай некаторымі медыямі інфармацыі пра падрыхтоўку сумесных вучэнняў Узброеных Сіл Беларусі і Украіны. На думку палкоўніка Смольскага, у міратворчых гуманітарных аперацыях варта браць удзел, каб *«не адстаць ад сусветных тэндэнцыяў развіцця вайсковай навукі і практыкі»*. Удзел у міратворчых аперацыях, на думку палкоўніка, мае і палітычны аспект: *«дэманстрацыя сцягу дзяржавы, прэстыж, удзел на роўных з іншымі краінамі ў вырашэнні глабальных праблем»*.

**Радыяцыя.** У Мінску затрыманы гандляр радыеактыўным рэчывам. Жыхар Барысава прадаваў на мінскім рынку Ждановічы чатыры кантэйнеры са стронцыем–90, радыеактыўны ўзровень якога аказаўся ў 900 разоў большым за натуральны. Кошт тавару ацэньваецца 13 тысячамі долараў.

**Юбілей.** 10 год спаўняецца Нацыянальнаму дзяржаўнаму гуманітарнаму ліцэю імя Якуба Коласа. З гэтай нагоды 15 студзеня ў ліцэі адбыўся Дзень адчыненых дзьвярэй. Ліцэй – адна з нешматлікіх установаў, у якой навучанне вядзецца цалкам па-беларуску. Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй быў утвораны з ініцыятывы прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі Беларусі ў верасні 1990 года. 15 студзеня 1992 года навучальная ўстанова атрымала будынак па вул. Карла Маркса, 21 – і гэты дзень было вырашана надалей святкаваць як Дзень ліцэя.

**ДАІ.** Праз тры гады ў Дзяржаўтаінспекцыі будуць працаваць толькі афіцэры – заявіў кіраўнік ДАІ Леанід Фармагей. У хуткім часе афіцэрская ДАІ з'явіцца ў сталіцы і абласных цэнтрах. Пераход да новага асабовага складу плануецца праз скарачэнне малакампетэнтных людзей і асоб пенсійнага ўзросту. *«Трэба спыніць здзекі з людзей»*, – гэтак кіраўнік ДАІ сфармуляваў перад падначаленымі задачу павышэння аўтарытэту аўтаінспектараў.

## АКЦЫЯ

# Без дазволу

МІКОЛА РЭЧЫЦКІ

**У гадавіну колішняга візыта Біла Клінтана ў Беларусь у Курапатах было людна. Усё тлумачылася вельмі проста — гэтым разам у Курапаты прыехаў амбасадар ЗША Майкл Козак.**

Падчас свайго візыту ў 1994 годзе Біл Клінтан усталяваў на пахаваньні памятны знак – лаву, на якой потым несьвядомыя жыхары мікраараёну «Зялёны луг-6» сем год запар ужывалі пладоваягадныя напоі. Улетку напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў невядомыя вандалы зруйнавалі лавачку, але сьвядомыя беларусы адшукалі зьнішчаныя часткі. І вось адноўлены аўтарам-скульптарам знак у прысутнасьці Станіслава Шушкевіча адкрываў амбасаджар ЗША у Беларусі Майкл Козак.

Інфармацыйная падтрымка акцыі была забясьпечаная на належным узроўні. Напярэдадні прадстаўнікі амбасады абтэлефаноўвалі СМІ і запытвалі прозьвішчы журналістаў, што возьмуць удзел у акцыі. Гэта наводзіла на думкі аб вельмі жорсткай працэдуры рэгістрацыі й лесе, ачэпленым марскімі пехацінцамі. Але дэ-факта паглядзхець на жывога амэрыканскага амбасадара мог кожны, калі б ведаў, дзе і як усё будзе адбывацца.

Але працэдура папярэдняга запрашэньня ўсё ж справакавала інцыдэнт. У той час, як «зубраўцы» стаялі ў натоўпе, годна трымаючы свае сьцягі, асноўныя абаронцы Курапатаў з незарэгістраванай Беларускай партыі свабоды сядзелі ў намёце, прынцыпова ігнаруючы цырымонію. Як патлумачыў лідар БПС Сяржук Высоцкі, амэрыканская амбасада афіцыйна не запрасіла іхных прадстаўнікоў, нягледзячы на тое, што тыя і ўдзень і ўночы дзяжураць ва ўрочышчы.

Падчас цырымоніі Майкл Козак зачытаў вітальнае слова, у якім падкэсьліў, што ва ўрочышчы пахаваныя людзі зьнішчаныя не ворагамі, не прыхаднямі, а ўласным рэжымам.

Варта зазначыць, што цырымонія праводзілася амбасадай без афіцыйнага дазволу беларускіх уладаў на ўстаноўку знака, але на ёй усё ж такі прысутнічаў намесьнік міністра замежных справаў. Відаць, вырашылі не сварыцца.

Выступам хора з Чырвонага касьцёла й набажэнствам цырымонія завершылася. Яе ўшанавалі сваёй прысутнасьцю прадстаўнікі Польшчы і краін Балтыі, а таксама лідары асноўных апазыцыйных партый і арганізацый Беларусі. ■

## МОЛОДЕЖЬ

# Дни Европы в Беларуси

АНТОСЬ САКОВИЧ

**В шестой раз политический год в Беларуси начнется 14 февраля. И в шестой раз его начнет Молодой фронт.**

Акции на День святого Валентина под лозунгом «Беларусь – в Европу!» стали визитной карточкой Молодого фронта, или, как сказал Павел Северинец, *«фирменной фишкой»*. Отказываться от них, особенно на фоне возможного референдума о принятии так называемого конституционного акта союзного государства, было бы непростительной ошибкой. Поэтому в этом году МФ планирует не только продолжить традицию, но и развить ее.

Кампания начнется, как и положено, 14 февраля с уличного шествия в Минске, а завершится только через три месяца, 14 мая, в годовщину первого лукашенковского референдума. В течение этого марафона в 110 городах Беларуси, где есть отделения Молодого фронта, пройдут Дни Европы. Руководство МФ обещает, что в каждом городе, как минимум, будет несколько разноформатных мероприятий. Обязательным номером в программе значится проведение соцопроса молодежи по теме, какой бы она хотела видеть Беларусь: частью Европы или России. При подготовке такого масштабного замера общественного мнения молодофронтовцы даже консультировались с профессионалами из НИСЭПИ.

Еще до начала национальной кампании, делегации МФ примут участие в двух международных форумах. С 23 по 26 января в Женеве состоится заседание Совета молодежных структур европейских народных партий. А с 28 января по 3 февраля в Брюсселе с участием белорусской стороны пройдет заседание Совета Европейских демократических студентов. Обе организации объединяют молодежь правоцентристского толка. Непосредственно во время кампании акции поддержки пройдут во многих европейских столицах. Уже сейчас у руководства Молодого фронта есть уверенность, что они состоятся в Вильнюсе, Праге, Варшаве и Брюсселе.

Как заявил Павел Северинец, основные мероприятия в рамках кампании будут выдержаны не в негативно-протестном пафосе, а в позитивном. По сути, это должно стать творческим поздравлением белорусов с введением евро и другими успехами европейской интеграции. В этой связи вторая часть лозунга, рожденного в 1997 году (*«Беларусь – в Европу, Лукашенко – в...»*), малоактуальна в 2002 и использоваться не будет.

Новый подход в пиар-стратегии был продемонстрирован уже на пресс-конференции. МФ на время превратился в МВФ и презентовал журналистам, победившим в викторине, посвященной истории празднования Дня святого Валентина в Беларуси, пока еще редкие у нас пятиевровые купюры. Для этого молодофронтовцы обошли более 30 пунктов обмена валюты и смогли купить их только в аэропорту Минск-2. После этого остается лишь предположить: если раньше БТ заявляло, что участникам оппозиционных демонстраций платят по 10 долларов, то теперь расчет будет вестись в евро. ■




## РЭГІЁНЫ

**Добруш.** Трохгадовая дзяўчынка загінула ў Добрушы ў выніку выбуху газавага балона. Трагедыя адбылася 13 студзеня а 5-й ранку ў бараку на тры сям'і, дзе жылі працаўнікі Добрушскай чыгункі. У выніку выбуху газавага балона абваліліся бетонныя сцены барака. Маці дзяўчынкі ўратавалася, дзякуючы старой жалезнай швейнай машынцы, якая вытрымала вагу сцяны. Жанчына шпіталізаваная. Астатнія жыхары чыгуначнага барака атрымалі лягчэйшыя пашкоджанні розных ступеняў.

**Брэст.** Гандляры ртуццю затрыманы ў Брэсце. Ля гатэлю «Інтурыст» міліцыянты затрымалі двух грамадзян Беларусі, якія шукалі пакупніка на 50 кілаграмаў ртуці.

**Мар'іна Горка.** Упраўленне ўнутраных спраў Мінскай вобласці вядзе праверку ў сувязі са збіццём актывіста апазіцыі з Мар'інай Горкі Зміцер Васьковіча двумя супрацоўнікамі мясцовай міліцыі. 19-гадовы Зміцер Васьковіч атрымаў чэрапна-мазгавую траўму, траўму нырак і змешчаны ў абласную лякарню. На гэтым непрыемнасці сям'і Васьковічаў не закончыліся. 24 снежня 2001 года на офіс, дзе месціцца грамадская арганізацыя «Беларуская хатка», учынілі напад некалькі невядомых хуліганаў. Яны пашкодзілі дзьверы, абарвалі тэлефонныя дроты, у тым ліку – у суседніх кватэрах.

**Гомель.** Крымінальная справа супраць кіраўніцтва Гомельскага тлушчавага камбіната заведзена праваахоўчымі органамі. Кіраўніцтва абвінавачана ў нанясенні страты прадпрыемству памерам 600 тысяч долараў у выніку падпісання кантракту на пастаўку каўстычнай соды.

**Мір.** Прадстаўніца старадаўняга беларускага роду Святаполк-Мірскіх, жыхарка Лондану Марыя Святаполк-Мірская, перадала ў дар Мірскаму замку карціну «Зімовы пейзаж», якая належала маці спадарыні Марыі – княгіне Надзеі Святаполк-Мірскай. Княжацкі род некалькі стагоддзяў валодаў Мірскім замкам. Карціну перадалі амбасадару Беларусі ў Вялікабрытаніі Валерыю Садоху. Тэма палатна навеяная ўспамінамі пра дзіцячыя гады, якія княгіня Надзея правяла ў Міры. Марыя Святаполк-Мірская выказала пажаданне, каб карціна яе маці была размешчана ў адной з залаў знакамітага беларускага замку.

**Віцебск.** Як паведамляе «Радыё Рацыя», трэці сезон запар у цэхах Віцебскага завода «Эвістар» тэмпература паветра ўзімку не дасягае ўзроўню, вызначанага санітарнымі нормамі. Нездавальняльныя ўмовы працы сталі нагодаю для звароту прафсаюза працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасці да прэм'ер-міністра краіны Генадзя Навіцкага. За адсутнасць цяпла працаўнікі «Эвістару» расплачваюцца здароўем: леташняй зімою кожны сёмы браў бальнічны ліст з прычыны прастуднай хваробы. Глебаю для такой сітуацыі сталася складанае фінансавае становішча прадпрыемства – яно мае вялікія шматгадовыя запазычынасці за цепла-электраэнергію і крэдыты.

РАСПОРЯЖЕНИЕ

# Снова политинформации

ПОЛИНА ПЕТУХОВА

**12 января было обнародовано подписанное тремя днями ранее распоряжение президента Лукашенко «О создании и деятельности информационно-консультативныз групп». Основными понятиями документа стали «пропаганда» и «идеологический актив».**




Цели вроде бы преследовались самые благие: «*реализация конституционного права граждан на получение полной и достоверной информации о деятельности госорганов, общественных объединений, о политической, экономической культурной и международной жизни страны, а также о состоянии окружающей среды*». Однако это красноречие стало лишь преамбулой к основной задаче: оказанию организационной и методологической помощи «*идеологическому активу в обеспечении пропаганды основных направлений государственной политики*».

Вот такая лексика, вот такое неприкрытое утверждение того, что в стране все же существует и пропаганда и идеология. Впрочем, как и большинство явлений белорусской реальности, лишь номинально. Нерадивость ли это администрации президента или какие-то другие обстоятельства, только население основных идей и положений госидеологии сформулировать не в состоянии. До сих пор процесс формирования общественного мнения относительно теперешней власти и политики РБ если и проводился, то латентно. Нет в Беларуси лозунгов, концепций, учений, сродни советским. Есть лишь официальная точка зрени, придерживаться которой не очень-то и заставляли до последнего времени.

Нет ничего удивительного в том, что за идеологизацию Лукашенко взялся именно сейчас, когда он может править еще почти пять лет. Скорее всего, это лишь первый шаг к установлению госидеологии. Видимо, сложно ему все-таки пришлось с фальсификацией результатов последних выборов. А население уже постепенно отказывается молиться на гарантированность своей нищеты.

Год лошади обещает стать триумфальным для Лукашенко. Теперь все пойдет как надо. Чиновники, которые войдут в состав информационно-консультационных групп, обязаны будут не реже двух раз в квартал выступать с идеологическими речами. Места для политинформации выбраны подходящие: воинские части, трудовые коллективы и учебные заведения. Наиболее оригинальным представляются выступления «*по месту жительства граждан*». Будут ли открыты красные уголки в ЖЭСах, или ораторы будут собирать стихийные митинги на лестничных площадках – неизвестно.

Проблемой могло бы стать отсутствие опыта чиновников из информационно-консультативных групп по подготовке соответствующих материалов. Что ж, придется вспомнить советское прошлое. Тем, кто не сможет, готовые речи, именуемые в распоряжении президента «*справочными и аналитическими материалами*», будут готовить в Академии управления при президенте РБ и институте социально-политических исследований при администрации президента же РБ. Сачкануть политинормацию чиновникам также не удастся. Их будет контролировать непосредственно президентская администрация.

Впрочем, семерым орлятам не привыкать к подобной службе. На Брестчине верховодить политинформацией будет председатель коммитета госконтроля Анатолий Тозик. Его заместитель будет отягощен аналогичными функциями в Минске. За Витебскую область будет отвечать председатель Палаты представителей Вадим Попов. Гомельчанам и жителям окресностей этого облцентра повезло с заместителем премьера Сергеем Сидорским. Еще один зампремьера Владимир Дражин будет координировать идеологизацию на Гродненщине. За Могилевскую область будет отчитываться заместитель председателя Совета Республики Михаил Авласевич. Следить за состоянием умов в Минской области поручено госсекретарю белорусского совбеза Геннадию Невыгласу.

Высокопоставленность каждого из семи пропагандистов свидетельствует о том, что Александр Лукашенко взялся за дело очень серьезно, а все предыдущие попытки идеологизации были лишь игрушками. Чтобы дистанцироваться от прошлой неудачной практики, он отменил свое постановление более чем пятилетней давности «О направлении в области республики информационно-пропагандистских групп». Оказывается, все это время граждане республики должны были подвергаться индоктринации, но счастливо этого избегали.

Чтобы орлята не наговорили лишнего, тематика будет определяться в самой президентской администрации. Не останутся в стороне и государственные СМИ. Их задачей станет ретрансляция локальных выступлений на все белорусское общество. ■

ПАМІЖ АРЫШТАМІ

# НЕЛЬГА ЗА СЬЦЯЖКІ...

➲ *Заканчэньне. Пачатак на стар. 1*

Бальшыня дырэктараў усьведамляе, што прынцыпы, якіх ім прапануюць трымацца ў іх кіраўнічай дзейнасьці, могуць прывесьці толькі да пагаршэньня становішча на прадпрыемствах. Ад дзяржаўных выканаўцаў немагчыма патрабаваць адначасова й паслухмянасьці, і высокіх эканамічных вынікаў. Ва ўмовах, якія диктуе беларуская афіцыйная эканамічная палітыка, гэтыя рэчы прынцыпова несумяшчальныя.

Адзіным сродкам супрацьстаяньня магло б быць аб'яднаньне дырэктараў і сумесная абарона сваіх пазыцыяў. Для прадухіленьня ўсталяваньня такое еднасьці якраз і ладзіцца час ад часу прaполка дырэктарскіх шэрагаў. За колішняга прэзыдэнта ЗАТ «Атлант» Л. Калугіна замовілі слоўца толькі ягоныя расейскія партнэры. Беларускія ж калегі змаўчалі. Ніхто не пікнуў і пасьля наступных рэпрэсыяў.

У кадравай чыстцы можна ўгледзець намаганьні Лукашэнкі вызваліць месцы для расейскіх прэтэндэнтаў на беларускі вытворчы комплекс. На карысьць такое версіі кажа арышт М. Лявонава. Ён вядомы сваім калегам як бескампрамісны змагар супраць прысутнасьці расейскага капіталу й кадраў на сваім прадпрыемстве. З такім тлумачэньнем не стасуюцца арышты іншых кіраўнікоў. Наўрад ці бацька падаруе камусьці Беларускую чыгунку, стадыён «Трактар» ці магілёўскі гарадзкі рынак «Задняпроўскі».

Існуе й адваротная версыя. Бацька насьцярожана ставіцца да занадта цеснага сяброўства некаторых беларускіх дырэктараў са сваімі расейскімі калегамі, якое можа вывесьці працэс разьлікаў з расейскімі алігархамі з-пад ягонага прэздэнцкага кантролю. Сяброўства з «усходнім братам», безумоўна, рэч сьвятая, але сяброўства зусім ня значыць вар'яцкую альтруістычнасьць. Бо для сябе некаторыя матэрыяльныя рэсурсы варта пакінуць. Таму ён і замяняе тых, хто сабаку зьеў на расейска-беларускім бізнэсе, кадрамі, што могуць дзейнічаць толькі ў межах адзінага калгасу, якім, па сутнасьці, і зьяўляецца дзяржаўны вытворчы комплекс Беларусі.

Ёсьць ад арыштаў і дадатковая карысьць для Лукашэнкі. На вінаватых дырэктараў вельмі зручна сьпісваць адказнасьць за ўсе эканамічныя няўдачы апошніх часоў. Дакладныя й велізарныя памеры шкоды, нанесенай дзяржаве, не абвяшчаюцца таямніцай сьледзтва. Яны даступныя кожнаму, хто пажадае пераканацца ў небясьпечнасьці для ўсяго грамадзтва колішніх дырэктараў. Пракуратура паведамляе аб мільёнах амэрыканскіх даляраў. А вялікая лічба заўжды ёсьць важкім аргумэнтам для грамадзкасьці, якой вельмі адназначна прапануюць самастойна зрабіць выснову аб справядліва пакараных злодзеях і дасьведчаным змагары з крымінальнымі элемэнтамі Лукашэнку. ■

ПОДРОБНОСТИ

## Уже не директор

14 января Министерство промышленности расторгло трудовой договор с Михаилом Леоновым в связи с возбуждением в отношении него уголовного дела. С этого дня Леонов освобожден от должности генерального директора Минского тракторного завода по ст. 259 Трудового кодекса Республики Беларусь. Интерес представляет содержание данной статьи: *«По решению собственника имущества организации или уполномоченного им органа трудовой договор с руководителем организации может быть расторгнут до истечения срока его действия в случае отсутствия виновных действий (бездействия) руководителя организации. В таком случае собственник имущества организации или уполномоченный им орган выплачивает руководителю организации компенсацию за досрочное расторжение с ним трудового договора в размере, определяемом трудовым договором»*. При этом в управлении труда министерства не сомневаются в том, что данная статья подходит для ситуации с М. Леоновым. Об этом БелаПАН заявил начальник управления Николай Борцевич. Он также отметил, что компенсация не предусмотрена в трудовом договоре с Михаилом Леонов. В приказе по Министерству промышленности сообщается, что основанием для расторжения трудового договора с М. Леоновым и освобождения его от занимаемой должности являются письмо администрации президента от 11 января № 12/124-22 и поручение Совета Министров от 14 января № 07/105-44. Еще 9 января начальник пресс-центра республиканской прокуратуры Алексей Таранов сообщил, что М. Леонов был отстранен от занимаемой должности по решению президента после доклада генерального прокурора о возбуждении в отношении руководителя МТЗ уголовного дела. Приказ о расторжении договора с Леоновым уже получен администрацией Минского тракторного завода, и с его содержанием руководство предприятия будет ознакомлено на совещании, которое пройдет во второй половине дня.

## Уже обвиняемый

Управление Следственного комитета МВД Беларуси по Гомельской области вынесло обвинение директору Гомельского радиозавода Анатолию Кирикову. Ему вменяется в вину злоупотребление служебным положением, повлекшее за собой значительный ущерб предприятию. Следствие не исключает, что Кириков виновен в заключении заведомо убыточного контракта с зарубежной фирмой, в результате чего радиозавод недосчитался 87 миллионов рублей. Если вина директора будет доказана, он может получить до 8 лет лишения свободы с конфискацией имущества (часть 3 статьи 424 Уголовного кодекса). По сведениям, полученным БелаПАН от источников на радиозаводе, речь идет о контракте с латвийской фирмой «Саламандра Тур» на поставку в Германию наборов мебели (стол и две скамьи) для пивного бара. В Германию было отправлено две фуры по 384 набора. При себестоимости около 200 немецких марок, радиозавод продал наборы по 55 марок. Разница в цене, по-видимому, и стала фигурировать в материалах следствия как ущерб. По словам источников, директор взялся за выполнение этого заказа с целью загрузить мощности предприятия, а убытки мог компенсировать за счет прибыли от реализации других контрактов. После ареста 5 января Кириков продолжает находиться под стражей.

СУАЙЧЫНЬНІКІ

# Беларусь аб'яднаная й раз'яднаная

АЛЯКСАНДАР КАВАЛЬСКІ

**Новае кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», абранае летам мінулага году, пахвалілася першымі вынікамі сваёй дзейнасьці на справаздачнай прэс-канфэрэнцыі й падзялілася сваімі плянамі на будучыню. Пляны — грандыёзныя.**

Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» паўстала яшчэ ў 1990 годзе, а яго першым прэзыдэнтам быў Васіль Быкаў. За гэты час аб'яднаньне правяло тры зьезды беларусаў сьвету. Калі на першым зьездзе кіраўніцтва згуртаваньня сядзела ў прэзыдыўме разам зь сябрамі тагачаснага ўраду, то апошні, трэці, зьезд, што праходзіў летась у ліпені, абышоўся без прысутнасьці прадстаўнікоў афіцыйных уладаў, а прэзыдэнт Лукашэнка прыслаў віншавальную тэлеграму толькі на другі дзень кангрэсу. Але такая дробязь ужо ніяк не магла сапсаваць настрой дэлегатаў.

Трэці зьезд пераабраў кіраўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына». Прэзыдэнтам замест Радзіма Гарэцкага, які плённа папрацаваў на гэтай пасадзе два тэрміны, стаў вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч, а старшынёю Рады – Алена Макоўская. Зь ініцыятывы апошняй дэлегаты кангрэсу прынялі рашэньне аб стварэньні беларускага інфармацыйнага цэнтру. Гэты крок ужо даўно высьпеў, бо за 11 гадоў існаваньня згуртаваньня так і не была вырашана галоўная праблема нашай дыяспары – беларусы замежжа вельмі мала ведаюць аб тым, што адбываецца на Радзіме, і амаль нічога ня ведаюць пра жыцьцё беларускіх суполак у іншых краінах сьвету. Каб праравіць гэтую інфармацыйную ізаляцыю, быў створаны інфармацыйны цэнтар «Беларусь аб'яднаная» на чале са Зьміцерам Сасноўскім.

Са сьнежня цэнтар распачаў выпуск інфармацыйнага бюлетэню «Беларусы ў сьвеце» й трох тэматычных дайджэстаў «Грамадзтва», «Культура», «Эканоміка». Бюлетэнь асьвятляе жыцьцё беларускай дыяспары й разьлічаны хутчэй на ўнутранага спажыўца. Зараз ужо ёсьць каля 300 ягоных падпісчыкаў. Дайджэсты, наадварот, больш цікавыя для беларусаў замежжа, бо даюць уяўленьне пра працэсы, што адбываюцца на Радзіме, вачыма розных СМІ, як незалежных, так і дзяржаўных.

Працу зь інфармацыяй сёньня немагчыма ўявіць без выкарыстаньня сучасных высокіх тэхналёгіяў. Але тут ачольнікі праекту сутыкнуліся зь нечаканымі праблемамі. Пры тым, што ў згуртаваньне ўваходзяць 218 суполак беларусаў, толькі каля трыццаці зь іх маюць свае электронныя адрэсы. Як заўважае Алена Макоўская, справа ня ў тым, што беларусы замежжа настолькі бедныя, проста ім уласьцівы кансэрватызм. Бывае, што нават лісты з Аўстраліі прыходзяць напісаныя на друкарцы, як у XIX стагоддзі.

Нягледзячы на тэхнічныя цяжкасьці, інфармацыйны цэнтар «Беларусь аб'яднаная» ўжо распачаў збор інфармацыі аб беларускіх арганізацыях замежжа. Кожнай суполцы ў лістападзе была адаслана падрабязная анкета, а зараз ужо пачалі прыходзіць адказы. Гэтыя дадзеныя, а таксама інфармацыя пра беларускія навучальныя ўстановы, музэі, цэрквы, бібліятэкі, помнікі культуры, фірмы й прадпрыемствы, пэрыядычныя выданьні нашай дыяспары будзе ўтрымліввацца на афіцыйным сайце ЗБС «Бацькаўшчына»: **www.zbsb.org.**

Таксама на сайце мяркуецца разьмясьціць тэлеканфэрэнцыю, англамоўны разьдзел *«United Belarus»* для замежнікаў, што цікавяцца нашай краінай, і нарматыўную інфармацыю Рэспублікі Беларусь па пытаньнях нашай дыяспары. Але з апошняй праблема нашмат сур'ёзьней, чым тэхнічная.

Дагэтуль у нашай краіне няма цэласнае канцэпцыі адносінаў да беларусаў замежжа й адпаведнага закону. Рэч тым больш дзіўная, што кожны трэці беларус (каля 3 мільёнаў) пражывае па-за межамі Беларусі. Аналягічныя законы ёсьць ва ўсіх краінах-суседках – Украіне, Расеі, Польшчы ды іншых – і прадугледжваюць дзяржаўную падтрымку суайчыньнікаў, ільготы пры рэпатрыяцыі ці навучаньні на тэрыторыі гістарычнае радзімы.

Беларусь у гэтым, як і ў шмат чым іншым, – выключэньне. Дзяржкамітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў ва ўрадзе Ўладзімера Ярмошына пасьпеў толькі падрыхтаваць праект структуры закону «Аб суайчыньніках». За аснову чамусьці былі ўзяты расейскі закон, за выняткам тых накірункаў дзяржпадтрымкі суайчыньнікаў, што вымагаюць вялікіх фінансавых выдаткаў. Расейскае заканадаўства ня вельмі пасуе нам, бо фактычна нацэлена не на падтрымку этнічных рускіх, а ўсёй расейскамоўнай культурнай прасторы. Адсюль беларуская трактоўка суайчыньнікаў у праекце закону як усіх выхадцаў зь Беларусі.

Парадокс, на думку кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў сьвету, заключаецца ў тым, што пры падобным падыходзе дзяржава аднолькава ставіцца як да расейца, які вярнуўся на сваю гістарычную радзіму й уключыўся там у грамадзкае жыцьцё, трапіў у свой культурны асяродак (тое ж самае тычыцца любых рэпатрыянтаў – габраеў, украінцаў, палякаў), так і да беларусаў, што жывуць у іншых краінах, у чужым культурным асяродку. У сваім праекце структуры закону «Аб стасунках зь беларусамі замежжа» ЗБС «Бацькаўшчына» прапануе абапірацца на прыклады ўкраінскага ці польскага законаў, якія ў першую чаргу дапамагаюць этнічным украінцам ці этнічным палякам, якія воляю лёсу апынуліся замяжой.

Зрэшты, спрэчкі аб падыходах да панятку «суайчыньнік» для дзяржавы зараз ня вельмі актуальныя. Пасьля рэарганізацыі ўраду няма яснасьці, хто працягне займацца праблемамі беларускай дыяспары. Былі пляны перадаць гэты накірунак у кампэтэнцыю адмысловага ўпраўленьня Міністэрства замежных спраў. Але пакуль з гэтым ня вызначыліся. У любым выпадку Згуртаваньне беларусаў сьвету працягне працу над уласным варыянтам закону й будзе прапанаваць яго на разгляд у Палату прадстаўнікоў. ■

